Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

ЦАНА НУМАРУ 20 ГР.

№ 5 Нядзеля, 22 Красавіка 1928 г. м. Вільня. Год I

# ГРАМАДЗЯНІН

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ Д...

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

Падпісная цана на 1 месяц 50 грашэй, на 2 месяцы 1 злоты. Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Zawalna 6, m. 5, Тэлеф. 14-35.



## Да працы!

З усіх нацыянальнасьцяў, насяляючых Польшчу, мы, Беларусы, найболей бедныя матар'яльна і духова. І ў гэтым нашае няшчасьце. Бо калі-б мы былі больш заможнымі, дык гэта дало-бы нам магчымасьць падняць ровень нашага культурнага жыцьця і наадварот. Гэтае недамаганьне адчуваем на кожным кроку.

Есьць вялізарная патрэба культурнае працы, толькі німа каму яе распачаць і ўзяць на сябе ініцыятыву, каб парушыць яе з мёртвага пункту, на якім мы амаль што заснулі. І гэта ў той час, калі сярод іншых нацыянальнасьцяў гэтая праца б'е поўнаю крыніцаю.

Узяць хоць-бы напрыклад украінцаў, варункі жыцьця якіх значна падобны да нашых. Кааператыўны і наагул грамадзка-арганізацыйны рух сярод іх ня ўступіць у сваей сіле нават пануючай польскай нацыянальнасьці. А гэта дзеля таго, што ўкраінскі народ у сваей масе зусім пасьпеў да грамадзкага жыцьця, да поўнага зразуменьня сваіх культурна-нацыянальных патрэбаў. Аб больш рухлівых немцах ці жыдах няма чаго нават і казаць.

І вынікі гэтага для ўсіх вачавідныя. Эканамічна яны стаяць значна вышэй за нас, а з дзяржаўных запамогаў на іх долю перападае незраўнана больш, чым на нашую.

Дык што-ж рабіць, каб ня быць зусім зацёртымі гаспадарча, культурна і нацыянальна мацнейшымі суседнімі братнімі нацыянальнасьцямі у сябе дома?

Зусім зразумела, што ў першую чаргу трэба выкарыстаць усе тыя магчымасьці і сьродкі, якія цяпер маем пад рукамі. Калі ня маем у давольным ліку сваіх уласных кааператываў і гаспадарчых установаў, дык трэба скарыстацца тымі, якія істнуюць на тэрыторыі нашага краю, хаця ж-бы яны былі ці польскія, ці жыдоўскія, ці ўкраінскія, ці якіясь іншыя. Трэба як мага да іх упісвацца.

Наступаючая вясновая пара патрабуе насеньня, штучных гнаеў, пасеўных крэдытаў, рольнічых машынаў і г. д. Усё гэта можна дастаць лягчэй усяго праз кааператывы, ,,кулкі" рольнічыя і іншыя грамадзка-гаспадарчыя супалкі, якія рупяцца аб сваіх сябрах і маюць для гэтага адпаведныя грашавыя сьродкі. Дык кожны з беларусаў павінен, не трацячы часу, далучыцца да якой небудзь з істнуючых гаспадарчых арганізацыяў, каб браць удзел у супольнай працы на карысьць свайго краю.

Калі мы ўсе ўпішымся ў сябры іст-

нуючых гаспадарчых суполак, сетка якіх павялічваецца з кожным днём, незалежна ад нашых да іх адносінаў, дык яны прымуць агульна краёвы характар і гэтым самым стануць карыснымі і для нашага народу. У кожнай з гэтых установаў на нашай зямлі мы можам мець рашучы голас, бо нас большасьць. І гэткім чынам, карыстаючыся гатовымі апаратамі, нават ня маючы ў давольным ліку ўласнай інтэлігэнцыі, мы зможам значна ўзмоцніць і пашырыць агульна каапэратыўны рух, ад якога залежыць і наш уласны матар'яльны дабрабыт. А удзел у іх дасьць магчымасьць падгатаваць нам і кадр уласнае працоўнае інтэлігэнцыі.

Затым супрацаўніцтва на гаспарчым грунце залагодзіць той антаганізм, які вытварыўся дзякуючы нездаровай палітыцы папярэдніх урадаў і адміністрацыі.

І вось, калі высілкі ўсіх жыхараў нашага краю будуць скіраваны да адзінай супольнай мэты — культурна-гаспадарчага супрацоўніцтва, дык гэтым будзе забясьпечаны агульны матар'яльны дабрабыт Краю і нашыя культурныя патрэбы.

# Палітычная хроніка.

## ПОЛЬШЧА.

### Канфэрэнцыя міністра Залескага з Мусалінім.

14 красавіка італьянскі прэм'ер Мусаліні прыняў на 2-х гадзінную канфэрэнцыю міністра Залескага. Абодва міністры абгаварывалі рожныя агульна-палітычныя праблемы, прычым была сцьверджана поўная згода галоўных кірункаў палітыкі Польшчы і Італіі. Пры гэтым мін. Залескі ўручыў Мусаліняму ад імя маршалка Пілсудзкага ордэн.

### Таемны выпадак у савецкім пасольстве ў Варшаве.

5-га красавіка ў савец. пасольстве ў Варшаве здарыўся наступны таемны выпадак, які паставіў на ногі цэлую брыгаду палітычнай паліцыі.

Да савецкага пасольства ўдзень зьявіўся малады чалавек і заявіў дзяжурнаму кур'еру, што жадае пабачыць кіраўніка консульскага аддзелу Ал. Такгофа. Як толькі ён увайшоў, за ім аўтаматычна зачыніліся ўсе дзьверы пасольства і з усіх куткоў высунуліся фігуры „кур'ераў".

Вайшоўшы да кабінэту Такгофа, таемны чалавек папрасіў размову на чатыры вочы і, калі гэтая просьба была ўважана, ён заявіў, што, быццам, зьяўляецца сябрам тайнай расейскай манархістычна-тэрорыстычнай арганізацыі ў Вільні і прыехаў дзеля таго, каб асьцярагчы пасольства перад замахам, які рыхтуюць расейскія манархістыя на савецкага пас. Богамолава.

Такгофу гэтая размова здалася няшчыраю і ён, пад відам паразуменьня з паслом, выйшаў да суседняга пакою, адкуль выклікаў па тэлефону паліцыю.

Прыбыўшая паліцыя арыштавала таемнага гасьця і адвязла яго да сьледчага камісарыяту. На дапросе ўявілася, што гэта — ня хлопец, а дзяўчына, убраная па мужчынску і называецца Галенаю Валентыновіч, мае яна 18 гадоў, стала пражывае ў Вільні. Мэта яе таемнай візыты невядомая. Сярод пасольскага пэрсоналу разышліся чуткі, што Валентынавічанка, пад відам перасьцярогі, хацела зыскаць давэрра сярод сяброў пасольства і затым асабіста выканаць замах на пасла Богамолава.

Паводле даных з камісарыяту паліцыі, п. Валентынавічанка ўпрост ёсьць хворая змыслова і будзе пераведзена ў Вільню і, па звальненьні з арышту, аддадзена пад паліцыйны нагляд.

### Сьнежная бура ў Варшаве.

17 красавіка ўдзень над Варшаваю разьгулялася нябывалая сьнежная бура. Да вечара напала сьнегу 30 сантымэтраў таўшчынёю. З гэтае прычыны цягнікі прыйшлі да Варшавы з спазьненьнем на 2-3 гадзіны. Вецяр у многіх мейсцах павыварочваў тэлефонныя слупы, пакалечыўшы некалькі асобаў. Каля 4 гадзіны затрымаўся трамвайны і аўтамабільны рух. Пасьля поўдня затрымалася тэлеграфная і тэлефонная сувязь Варшавы з правінцыяй. Толькі ўвечары ўдалося ўзнавіць тэлефонную сувязь з Вільняю і Львовам. З 106 тэлефонных пазамейсцовых ліній былі чыннымі толькі 10.

### Камуністычны працэс у Навагрудку.

Акружны Суд у Навагрудку пасьля разгляду справы 18 абвінавачаных з арт. 102 К.К. камуністаў асудзіў: 2 па 6 гадоў катаржнай турмы, 3—па 4 г., 5—па 3 г., 4—па 2 г. і 3 унявінены. Усе асуджаныя тварылі акружныя камітэты Камуніст. Парт. Зах. Бел. у Навагрудку, Дзятлаве, Баранавічах і Ганцэвічах.

### Камуністычны працэс ў Беластоку.

У Беластоку распачаўся працэс Цэнтральнага К-ту Камуніст. Парт. Зах. Беларусі, зьліквідаванага ў 1924 г. На лаве абвінавачаных сядзіць 60 асобаў на чале з Чэрняком, Каплан, Ковеньская і Сымховіч. Суд працягнецца некалькі тыдняў. Усе абвінавачваюцца з арт. 100, 102 і 129 К. К. Бароняць абвінавачаных некалькі адвакатаў з Вільні, Варшавы, Беластоку і беларускіх.

# ЗА ГРАНІЦАЮ.

### Землятрасеньне ў Баўгарыі.

17 красавіка а гадз. 11-ай раніцы ў Баўгарыі было адчута моцнае землятрасеньне, цэнтр якога знаходзіўся ў 200 кілёмэтрах ад Софіі. Матар'яльныя шкоды вельмі вялікія. У Турпане лічба разбураных дамоў дасягае 2000, у Барысаградзе 1000.

## С. С. Р. Р.

### Збожжа не даюць.

У Пермскай губэрніі ў в. Хлюдава сяляне забілі ўрадоўца, прыехаўшага для прымусовай куплі збожжа. Быў высланы ваенны атрад з заданьнем арыштаваць забойцаў. Але сяляне выступілі збройна і распачалася спатычка, у часе якой былі забіты 4 селяніны і 2 чырвонаармейцы.

### Рэпрэсыўная экспэдыцыя за збожжам.

У районе Радашковіч у в. Таліны выбухла крывавая спатычка між жыхарамі гэтае вёскі і чырвона-армейцамі, прыехаўшымі за рэквізыцыяй збожжа. У выніку прыбыў рэпрэсыўны атрад, які рэквізаваў збожжа і арыштаваў шмат сялян.

# Сельска-гаспадарскі аддзел.

## Пераход ад зімовай да вясновай пашы.

З пераменаю пары году мяняецца часта і паша для жывёлы. А дзеля таго, што гэтая зьмена некарысна ўплывае на жывёлу, дык трэба быць вельмі асьцярожнымі. Раптоўная зьменнасьць пашы мае некарысныя вынікі, асабліва ў тых выпадках, калі гэта здараецца разам з пераменаю пагоды. Абычна коні часта ўвясну хварэюць на жэлязы і іншыя хваробы, рагаты статак лёгка празябляецца, а ад'емныя праявы бачым нават у птушак.

Перш-наперш вялікую ўвагу трэба зьвярнуць пры выгане статку на пашу. Статак стаяў да гэтае пары ў цёплым хляву і дзеля гэтага стаў больш чулым да холаду, ветру, дажджу і г. д. Раптоўная зьмена хлеву на пашу можа мець шкадлівыя скуткі. Найперш прастуда наступае ў статку слабасільнага і худога. Дзеля гэтага першы соўнячны дзень не павінен быць прыманкаю для выгану на пашу. Трэба вычакаць, пакуль не сагрэецца зямля і не настануць зусім цёплыя дні бз з сьнегу, замаразкаў і г. д. У першы раз лепш усяго выганяць статак на пашу на некалькі гадзінаў пасьля паўдня і толькі пасьля некалькіх дзён можна

---

# „Студэнская Думка“.

*Часопісь беларускага студэнства ў Вільні. № 1(18) за Студзень — Люты 1928 г. Год выдав. IV-ты. 32 старонкі in octo.*

Як вельмі радасную праяву ў нашым, атручаным праз хваравітае распалітыкаваньне, беларускім жыцьці ў Польшчы, трэба адзначыць узнаўленьне органу беларускага студэнства ў Вільні пад назовам „*Студэнская Думка*“.

Орган гэты, начынаючы ў сёлетнім годзе IV-ты год свайго існаваньня, у прынцыпе—па думцы ягоных ініцыятараў—меўся быць месячнікам, але сталы недахоп грашавых сьродкаў на ягонае ўтрыманьне выклікаў у рэзультаце тое, што выходзіў ён зусім прыпадкова ў колькасьці 2—3 нумароў за адзін год з вялікімі летнімі перарывамі, а ў леташнім 1927 годзе на'т і зусім спыніўся.

Пры гэтым гожа будзе адцеміць і тое, што „Студэнская Думка“ гэта ўжо другая спроба беларускага студэнства ў Вільні наладзіць свой ўласны журнал, бо першай спробай быў месячнік „*Наш Шлях*“, які выходзіў у працягу некалькі год у Вільні перад зьяўленьнем „Студэнскай Думкі“.

Прачытаўшы ўступны артыкул ад рэдакцыі, зразумелай робіцца тая злосьць і нездаваленьне, якія выклікала ў беларускім „радыкальным“ лагеры зьяўленьне № 1-га гэтай часопісі.

Так! сапраўды як-жа тут не злавацца, калі ўва ўсей часопісі пралетарскага духу няма шака на'т на лякарства, нотак клясавае ненавісьці гэтак-жа ня чуваць, калі ў часопісі гэтай наадварот—усё дыхае здаровым беларускім *патрыятызмам*, усё поўна маладога парыву ідэалізму і веры ў будучыню, калі гэта студэнства, замест заклікаў да барацьбы, працягае аліўную галіну спакою і *згоды*, зьмяшчаючы ў уступным артыкуле між іншым гэтакія, кляймячыя сучасныя нездаровыя адносіны, словы:

„... У сучасны мамэнт, калі адраджэньне беларускага народу прыняло формы хваравіт(в)ыя, калі ў беларускай атмасфэры паўстаў чад ненавісьці і ўзаемнае сваркі, калі розныя „свае“ і чужакція „дабрадзеі“ бяскарна спэкулююць беларускім імем, гатуючы нашаму народу згубу—студэнства і агулам моладзь беларуская мусіць быць сьвядомаю ролі, якую адыграць наказуе любоў свайго народу і абавязак перад Бацькаўшчынай, асабліва — падкрэсьліваем — у сяньняшні дзень, калі Адраджэньне Народу Беларускага ідзе *крывымі* шляхамі.

пераходзіць да поўнае пашы. Абарона статку ад дажджу і халодных вятроў, роўным чынам ад мух значна спрыяе здароўю статку і безхваробнаму пераходу зьменяных абставінаў. Прыняўшы пад увагу, што статак стаяў усю зіму ў хляву. ня трэба ў першыя дні вытрымліваць яго доўга на пашы, у першыя дні нядоўгі выган ці добрае паветра больш значаць, чым трава, бо сьвежая земяніна мона лёгка зашкодзіць, у той час як сьвежае паветра і рух лепш падтрымае здароўе.

Гаспадары, ня маючыя магчымасьці выгнаць свой статак на пашу, павінны выгнаць яго прынамся на выган. Доўгае вытрыманьне яго ў хлеве ці стайні ў зімовую пару бяз сьвежага паветра і руху стварыла слабую цыркуляцыю крыві, зьмяншэньне страўнасьці і адпор проціў сухотаў. Сьвежае-ж паветра і рух хаця-бы на некалькі гадзінаў у дзень значна ўзмоцніць арганізм і падрыхтуе жывёлу да выкананьня свайго заданьня. Гэтым самым зьменшыцца лік хваробаў і павялічыцца даход статку.

Узіму статку давалася вараная бульба з сечкаю, сена, салома і пойла. Дзякуючы гэткаму корму ворганы яго сталі вельмі чулымі. Як у рагатага статку, гэтак сама і ў коняў замена паранага корму і сухога сена на сьвежы, можа нават на замёрзшую траву выклікае розныя хваробы страўных ворганаў, уздуцьця, у коняў колькі. Усе ўнутраныя хваробы ўвясну маюць сваей прычынаю перамену пашы. Дзеля гэтага павольнае прызвычаеньне статку да вясновай пашы з затрыманьнем частковага зімовага корму абароніць яго ад хваробаў, а гаспадара ад гэткіх стратаў, як зьмяншэньне малочнасьці ў кароваў, колькі дзенных перамаганьняў коняў, страту працоўных дзён і нават штукі.

Як чалавеку пасьля доўгага недамаганьня не даюць адразу шмат мяса, бульбы ці фасолі, гэтак сама і статку пасьля зімовага стойла ў хляву ня можна даваць адразу травы ці шмат зялёнай пашы. Такога гаспадара, які шчадзіць сваю гаспадарку і жывёлу, шчадзіць усякае ліха.

## Угнаеньне пладавых дрэваў.

Хто хоча мець карысьць з саду, той павінен клапаціцца аб пладавых дрэвах. Яны патрабуюць апрача цяпла ды соняшняга сьвятла яшчэ корму, як конская расьліна. Дзеля гэтага час ад часу трэба даць дрэву столькі корму, сколькі было забрана ўраджаем. Чым больш корму з зямлі, тым будзе лепшы ўраджай. У склад угнаеньняў павінны ўваходзіць тыя складкавыя часткі, якія пладовае дрэва патрабляе, як азот, фасфор вапна і паташ. Бяз угнаеньня зямля бедвая і дрэва перастае расьці і радзіць. Чым больш дрэва родзіць, тым больш трэба ўгнаяць. Асабліва карлаватыя дый кустовыя дрэвы патрабуюць правідловага ўгнаеньня дзеля таго, што іх карэньні бяруць корм з верхніх пластоў зямлі.

Пры ўгнаеньні трэба помніць аб тым, каб

---

Які-ж гэта абавязак? Якая роля?

„Беларускае студэнцтва“—адказвае рэдакцыя—„дзеці вякамі пакрыўджанага Народу—не пакідае думкі аб працы для гэтага Народу, думкі аб складаньні для Яго дані. Само-ж, знаходзячыся ў цяжкіх абставінах жыцьцёвых—студ'юючы на розных вучэльнях—сярэдніх і вышэйшых—можа гэтую дань злажыць часткова праз сваю часопісь — нясеньнем пажывы духовай“.

Пры помачы свае часопісі яно будзе „дзяліцца з Народам скарбамі набытай веды і навукі, дзяліцца багацьцем сваей душы і сэрца, дзяліцца з Народам сваімі думкамі і шляхотнымі пачуцьцямі“, будзе падаваць Народу „збаўленныя (хіба—збаўчыя?) думкі—лекі на сучасныя хваробы беларускага грамадзянства“, будзе ўрэшце старацца па магчымасьці праводзіць „санацыю ў адносінах беларускага грамадзянства“, спадзяючыся гэткім чынам „сплаціць у пэўнай меры дань свайго Народу“. Кабжа ўсе гэтыя заданьні беларускае студэнства змагло правясьці ў жыцьцё, часопісь гэтую павінна падтрымаць матар'яльна ўсё беларускае грамадзянства.

Далей, зараз-жа пасьля ўступнага, бачым другі вельмі цэнны і цікавы артыкул д-ра Тамаша Грыба з Прагі Чэскай п. н. *„Да пытаньня аб навуковым досьледзе і вывучаньні Беларусі“*. З гэтага артыкулу, якога літэратурныя і публіцыстычныя вартасьці, а ласьне: жывая, вобразная мова, усебаковы падыход да пытаньня і на вытараны стыль, стаўляюць на першым мейсцы сярод артыкулаў разгляданай часопісі, прakoнываемся гэтак бязсумліўна як што „два разы два—ёсьць чатыры“ аб тым, што аб нашым родным краі маем па сяньняшні дзень толькі самае мутнае паймо.

„Мусімо шчыра й адкрыта прызнацца — кажа паважаны аўтар—мы, Беларусы, ня ведаем сябе, свой Родны Край; мы ня ведаем свайго народу, бо ня ведаем яго навукова, а калі дзе-што і ведаем, то ўсё наша веданьне ёсьць вельмі й вельмі абмежаньне, нязначнае, навукова неўпарадкаванае, неўсыстэмазаванае“.

Далей аўтар вылічае рожныя краіны беларускага палітычнага, эканамічнага і культурнага жыцьця дый паасобныя галіны кожнай з іх, вылічаючы адначасна тое, што дасюль было зроблена для навуковага іх досьледу.

Далей аўтар сцьвярджае, што гэта праца „пляновага і сыстэматычнага досьледу і вывучаньня Беларусі... ня можа быць выканана паасобнымі людзьмі“, што „...трэ' працаваць

гной папаў на сваё мейсца. Дрэва прыймае корм валаскамі карэньняў. Чым старэйшае дрэва, тым дальш выпушчае ад сябе карэньні з валаскамі, дзеля гэтага трэба ўгнаяць грунт аж за межамі кароны дрэва. Аднак-жа ўгнаеньне ня прынясе спадзяванай карысьці, калі адначасова ня будзем абрабляць зямлі. Зямлю наўкол пня трэба трымаць заўсёды ў рыхлым стане і выпалатаю ад зарасьлі. Дзеля здаровага разьвіцьця карэньня павінна прахадзіць да зямлі паветра, цяпло, мароз, дождж і сьнег. А гэта будзе магчыма тады, калі зямлю будзем час ад часу акапываць матыкаю, лапатаю, а на вялікіх плошчах на'т бараною ці плугам. У восяні зямля павінна быць разрыхляна глыбока, бо мароз карысна ўплывае на зямлю, ў той час як летам можна абмяжоўвацца толькі сталым зьнішчэньнем быльніку.

Найлепшаю парою для ўгнаеньня пладовых дрэваў зьяўляецца восень і зіма. Карысныя складкавыя часткі гною пры помачы сьнегу і дажджу раскладаюцца і ўсмактываюцца валаскамі карэньняў. Пры ўгнаеньні пладовых дрэваў трэба ведаць склад зямлі, бо ня кожная зямля гноіцца аднолькова. Напрыклад зямлю чарназёмную, багатую складнікамі, няма патрэбы гэтак гнаіць, як зямлю пяшчанаю альбо камяністую. Павінны ведаць нятхваты зямлі і дадаць ей угнаеньнем тых складнікаў, якіх не хапае. Дрэвы маладыя гнояцца часьцей і больш, чым старыя. Найлепшым угнаеньнем для пладовых дрэваў зьяўляюцца гной з хлева і кампосты. Штучныя ўгнаеньні патрабляюцца толькі для папаўненьня карысных складнікаў, якіх не хапае ў зямлі.

Найлепшым гноем зьяўляецца конскі затым карові і нарэшце сьвіны. Конскі гной даецца для зямлі цяжкай, карові для лёгкай. Для лёгкай зямлі даецца больш гною, гэтак і для дрэваў больш старых.

Штучныя гнаі ўплываюць на верхнія пласты зямлі, дзеля гэтага хутка вычэрпваюцца. Фосфар мае вялікі ўплыў на тварэньне пладоў і насеньня. Фосфар даецца на цяжкай зямлі ў відзе супэрфасфату і ў лёгкай у добрай—томасіну.

Паташ дае пладоваму дрэву сілу і вытрымаласьць. Робіць дрэва моцным, цьвёрдым, вытрывалым у мароз. Пладам прыдае арамат, смак і колер. Недахоп паташу выклікае слабае разьвіцьцё лісьцяў. Найбольш паташу патрабуе яблыня, якая найлепей родзіцца там, дзе ніжэйшыя пласты глінiстыя. Затым агрэст патрабуе шмат паташу.

Вапна, падобна паташу, ўплывае на плады і на пень. Робіць дрэва цьвёрдым і выробляе цукар у пладох. Найбольш вапны патрабуе чарэшня.

Азот уплывае на рост дрэва. Недахоп азоту уяўляецца ў слабых галінах і бледых лісьцях. А аднабокае ці надмернае ўгнаеньне азотам выклікае хваробы дрэва. Плады маюць дрэнны смак, бываюць вадзяністыя і мала крохкія. Азотныя гнаі даюцца для цяжкай сялітры і для лёгкай зямлі ў форме аманьяковай серы.

Для пладовага дрэва патрэбна на 1 кв. мэтр:

5 гр. фасфору—чаму адказвае 3 дкг. 17% супэрфасфату, альбо 3½ дкг. тамасіна.

---

аб'яднанымі сіламі" кожны ў сваім фаху і што працу гэтую павінны зрабіць маладыя беларускія вучоныя з вышэйшай асьветай, першыя кадры каторых пакінулі ўнівэрсытэцкія муры ў працягу апошніх некалькіх год.

Гэтак-жа цэнным зьяўляецца і чарговы артыкул Міколы Ільяшэвіча п. н. *„Паходжаньне, старадаўныя весткі і антрополёгічныя адзнакі Беларусаў"*. Артыкул гэты, абапёрты на навуковых дадзеных рожных выдатных дасьледчыкаў расейскіх, чэскіх і нямецкіх, зьяўляецца, як бачым з допісу самага аўтара „кароткай выбаркай з прыгатаванае аўтарам працы: „Беларусь, як самастойная антропогеографічная адзінка".

Далей бачым у часопісе рад інфармацыйных артыкулаў, а ласьне: 1) Т. Грыба *„Мэты і заданьні А. Б. С. А."*. (Гэтак завецца ў скарочаньні „Аб'яднаньне Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў" Заходняе Беларусі і Эміграцыі—абапёртая на нацыянальных прынцыпах беларуская студэнская цэнтраля ў Празе Чэскай, да якой належа і наш віленскі „Беларускі Студэнскі Саюз"), 2) Адольфа Клімовіча *„Беларускае студэнства ў жыцьці міжнародным"*—ізноўжа прысьвячаны галоўным чынам А. Б. С. А., урэшце 3) *„З жыцьця беларускага студэнства на чужыне"*—цэнны артыкул сучаснага старшыні „А. Б. С. А." — Вячаслава Лаўскага, зьяўляючыся *першай спробай* апрацоўкі ў хронолёгічным парадку ўсіх фазаў беларускага студэнскага жыцьця ў Чэхаславаччыне ад самага яго пачатку. Падзеі гэтыя цікавілі і цікавяць шмат каго ў Краі, але неяк дзіўным чынам нікому з тамашніх студэнтаў дасюль у галаву ня прыходзіла зрабіць гэткага хоць-бы і кароткага, але сыстэматычнага нарысу ў мэтах інфармацыі і праз доўгі час трэ' было здаваліваца прыпадковымі карэспандэнцыямі паасобных сяброў, друкаванымі ў мясцовых беларускіх газэтах.

Невялічкі ў гэтым нумары „літэратурны аддзел" складаецца з настраёвага фэльетону Фр. Грышкевіча з Прагі п. н. *„Думкі"* і некалькіх, прыгожых наагул, вершаў, маладых віленскіх беларускіх паэтаў: А. Бартуля, М. Васілька і Г. Вялецкага.

Замыкае нумар багатая хроніка беларускага студэнскага жыцьця ў Краі і заграніцай.

А вось некалькі цікавых адрыўкаў з „Думак" маладога беларускага песьняра аўтара „Веснавых мэлёдыяў" Фр. Грышкевіча:

„...Думаецца і думаецца...

— Дакуль гэта ў беларускіх газэтах і літаратуры будуць пісаць, што славянскі апостал

2) 7,5 гр. азоту—чаму адказвае 4 дкг. аманьякавай серы ці 5 дкг. вапнянай салітры.

3) 15 гр. паташу—чаму адказвае $12^1/_2$ дкг. каініту ці $^3/_4$ дкг. паташовай солі.

У вясну гноім азотнікавымі ўгнаеньнямі, асабліва слабейшыя дрэвы ці старэйшыя, якія ўжо абмалажаліся ці будуць абмалажацца.

Улетку (ліпень-серпень) гноім 40% паташавай солі ці супэрфасфатам, каб гэтым падняць разьвіцьцё пупырак у наступным годзе.

У восяні і зімою гноім звычайным хлявуным гноем, тамасінаю і каінітам. Сьвежым гноем не можна ўгнаяць, бо ён паліць карэньні, асабліва ў маладых дрэваў. Затым трэба рожныя ўгнаеньні мяшаць у залежнасьці ад глебы і патрэбаў дрэва.

# Як купляць каня?

Надыходзіць пара вясеньніх работаў, а з імі мо' каму і патрэба набыць каня. Як-жа дапамагчы сабе ў гэтым, каб ня даццa ў ману пры набыцьці каня? Каб самому купляць, дык трэба ў гэтым самому знацца і быць напрактыкаваным. А калі гэтага няма, дык трэба запрасіць ці вэтэрынарнага лекара, ці якуюсь іншую дасьведчаную асобу. Ня вялікі выдатак на гэта сам сябе пакрые.

Пры пакупцы каня ня вер салодкім словам прадаўца, які з усіх бакоў будзе выхваляць свайго каня, а сам дахадзі да ацэнкі. Каня вібірай найадпаведняйшага тваей патрэбе і пры гэтым найгалаўнейшую ўвагу зьвяртай, каб ён меў сільныя і добра збудаваныя ногі, бо здаровыя ногі—гэта ёсьць больш як палова вартасьці ўсяго каня. Калі ногі здаровыя, у пярэдніх каленах ня сагнуўшыя, бяз ніякіх нарастаў, з капытамі бяз шчэлінаў, са здаровай стрэлкай, дык такі конь, хоць і стары—лепшы ад маладога. Пры абглядзінах каня трэба, каб нічога не абмінуць, зрабіць сабе поўны плян: спачатку выбірай каня які табе падабаецца па вонкаваму абгляду, і калі выбраў, дык прыступай тады ўжо да драбязговых абглядзін. Распачынай з выясьненьня па зубох веку. Для рабочага каня найбольш падходзячы век 5-11 гадоў. Тутака, калі сам не разумееш, дык абавязкова запрасі асобу дасьведчаную. Пасьля зубоў абглядай язык—ці цэлы ён. Далей абглядай вуха і ноздры — ці ня цячэ з іх гной, альбо зеляніаватая сьлізь, і ці няма якіх накусаў, боляк, ці высыпак. Памацаўшы падшчочныя жэлязы заўважай,ці яны не павялічаныя, і ці не баляць. Здараецца, што адна желяза бывае вялікая, цьвёрдая, прыросшая і не баліць. Гэтакага каня ня купляй, бо ён падозраны ў носаціне.Скура нагалаве, пад грывай, ні вісках вымагаецца, каб была-б бяз сьвярбячых каростаў. Самому распазнаць гэта ня лёгка і каня, у якога заўважана падозранасьць у каросьце, ляпей ня купляць.

Вочы ў каня павінны быць чыстыя, а белкавіна не зачэрпляная. Калі пры махальні рукой перад вачыма конь не баіцца, калі ягоныя вочы зачырванелыя, ці загнояныя, ці з аднаго вока цякуць сьлёзы—дык ляпей не купляць гэткага каня—як падозранага ў месячнай сьлепаце.

---

Кірыл стварыў і пісаў „кірыліцаю"? Чаму Беларускае Навуковае Таварыства (ў Вільні) ня выдае, хаця-б у год адзін раз, свае часопісі? Чаму аб ім (Навуковым Т-ве) мала хто чуе, калі аб украінскім, славацкім і сербалужыцкім усюды чытаць можамо? Чаму нашыя школьныя падручнікі выдаюцца паводле пераджытае сыстэмы, калі мы ўжо ў Вільні маемо людзей, якія добра знаюць пэдагагічны мэтад школы нашых дзён? Чаму гэта ўсё так робіцца? Чыя тут віна?

Думаецца і думаецца...

— *Чаму ў нас што асоба з сярэднюю ці вышэйшаю асьветаю—то ўжо асобная палітычная партыя? Чаму спосаб партыйнага змаганьня ў нас ёсьць такім брудным і нялюдзкім?* Чаму ў нас няма камітэту апекі над магіламі памёршых Апосталаў нашага Адраджэньня? Мільён залатых рублёў таму, хто сягоньня знойдзе магілу Алеся Наруна! Чаму ў Краі няма камітэту помачы беларускім студэнтам на эміграцыі, калі ведама добра ўсім, што яны гінуць ад сухотаў, як мухі? Ніхто аб гэтым ня думае, нікому не баліць гэта. Чыя тут віна? Хто тут вінен? Ціха... Няма адказу, бо няма згоды!

Думаецца і думаецца..."

Як бачым з вышэйпрыведзенага адрыўку—думкі Фр. Грышкевіча ёсьць вельмі-ж глыбокія і балючыя, і як гэткія павінны затрымаць на сабе ўвагу беларускага грамадзянства.

У канцы адзначым тут яшчэ, што часопісі можна-б было закінуць злішнюю перавагу праскіх супрацаўнікоў над віленскімі, калі-б ня ўзгляд на тое, што, як ведама кожнаму, першы нумар заўсёды выклікае найбольш труднасьцяў з яго выданьнем, з другога-ж боку — Прага месьціць у сабе шмат маладых творчых беларускіх сілаў, няраз вельмі цэнных, якія, ня маючы ўласнае часопісі, пазбаўляны магчымасьці выказацца аб сваіх думках ды падзяліцца з іншымі братамі здабытай ведай. Вось-жа, як бачым, часьціна „пражакоў" на шпальтах „Студэнскае Думкі" ёсьць зусім зразумелай, тым больш, што часопісь гэта, як гэта відаць з подпісу на вокладцы, ня лічыць сябе *выключна* органам беларускае студэнскае моладзі ў Вільні, але наагул органам беларускае моладзі, уваходзячай у склад „*А. Б. С. А.*" у Празе, граючы ў пэўнай меры ролю „афіцыёзу" гэтае апошняе.

Канчаючы гэтым наш агляд № 1-га „*Студэнскае Думкі*", жадаем якнайлепшага пасьпеху ініцыятарам гэтага сымпатычнага і карыснага для беларускае справы пачынаньня.

*Якуп Сьветазар.*

Конь са шпатам кульгае на нагу толькі спачатку, і дзеля гэтага гандляры перад прадажай ганяюць яго, каб спыніць кульганьне, але каб пераканацца, ці мае конь шпат, ці ня мае, трэба зрабіць спробу шпату. З гэтаю мэтаю падыймаюць заднюю нагу ў путні і згібаюць, каб была моцна скуляная і гэтак трымаюць мінут каля 5-ці. Пасьля гэтага трэба зараз-жа паганяць каня і калі ён кульгае— гэта адзнака, што конь мае шпат і што гэткіх коняў купляць ня трэба.

Пераганяць каня трэба на доўгай уздэчцы, а пасьля гатэга трэба паглядзець, як ён дыша—ці ня мае ён запалу. Запал можна пазнаць па цяжкаму і хуткаму выдыханьню і западаньню паміжробравых далівак. Пры наслуханьні груднай клеткі, калі чуваць сьвіст у сярэдзіне – конь нікуды ня варты.

Далей трэба аглядзець пад жыватом дзетародныя часьці—ці ня маюць яны якіх колячы вадаў.

І толькі пасьля ўсіх гэтых аглядзінаў можна прыступаць да куплі, але перад гэтым запатрэбаваць пашпарт каня, каб ён згаджаўся з апісам каня і прозьвішчам ўласьніка, бо часта здараюцца выпадкі, што каняры прадаюць канёў крадзяных.

# Пчалярства.

## Вясновы дагляд за пчоламі.

Як толькі вясновае сонца добра прыгрэе, трэба ў цёплы і ціхі дзень засіткаваць і агледзіць вульлі затым праз гадзіну адсіткаваць вочка, каб пчолы маглі выляцець і скінуць з сябе кал, які сабраўся за зіму. Вулей, у якім усяго даволі, будзе аблятацца пчоламі жвава. Калі-ж пчолы аблятаюць слаба, па аднэй—дзьве, дык гэта значыць, што ў вульлі няма маткі, або мёду, ці вулей слабы. Пасьля аблёту вочкі трэба звузіць.

У цёплы і пагодны дзень каля 1-3 гадзіны трэба аглядзець найперш тыя вульлі, якія слаба абляталіся пчоламі ці наагул паказваюцца падозранымі. Найперш дно кожнай рамкі трэба вымясьці і сабранае сьмяцьцё з мёртвымі пчоламі зьбіраецца ў скрынку і прасеіваецца на рэшаце, бо ў гэтым сьмецьці ёсьць шмат воску, які шкада выкідаць. Калі ведама, што ў вульлі няма мёду, дык трэба даць яму адну дзьве рамкі з мёдам альбо з цукроваю сытою. Цукровая сыта павінна быць густая: на 1 кілёграм цукру ½ літра цёплай вады. Сыту можна даваць і ў карытцы ці ў адпаведным начыньні. Сыту ляпей даваць увечары. Раніцаю, начыньне з сытою забіраецца.

Вульлі, у якіх ня знойдзем маткі, ці яны вельмі слабыя, скасоўваюцца; з іх забіраюцца ўсе рамкі з мёдам і пчоламі і дадаюцца вульлям слабейшым. Упарадкаваўшы ўсё як трэба і запісаўшы да кніжкі, вульлі цёпла ўкрываюцца, аглядаюцца вочкі і затым чакаем цяплейшых дзён, каб ужо зрабіць на пасяцы галоўную праверку. Трэба мець на ўвазе, што ўся праца ў вульлі вясною робіцца асьцярожна і хутка, каб не азябіць гнёздаў і не асьцюдзіць чарвячкоў.

# Развод тытуну ў 1928 годзе.

Развод тытуну прыватнымі асобамі падлягае пэўным абмяжаваньням дзеля таго, што ў Польшчы ёсьць „тытуновая манаполь“. Загады, рэгулюючыя развод тытуну, знаходзяцца ў распараджэньні „Dyrekcji Monopolu Tytoniowego“, абапёртага на „Ustawie Monopolowej“ ад 1.VI. 1922 г. і загаду Міністра Скарбу ад 9.I. 1928 г. Вось гэтыя распараджэньні ў скароце:

Ніхто ня можа разводзіць тытун без дазволу дырэкцыі польскага тытуновага манаполю ці ўпаважняных ею падлягаючых ей урадаў і прадпрыемстваў. Пасьля атрыманьня дазволу на развод тытуну плянтатар абавязаны прадаць увесь збор Скарбу Дзяржавы, у акрэсьляны тэрмін і мейсцу, па тарыфавых цэнах, вызначаных Міністрам Скарбу. Затым плянтатар павінен разводзіць толькі такія гатункі тытуну, якія ў данай акрузе дазволяны для разьвядзеньня. Для ўласнага ўжытку разводзіць тытун ня можна.

Пазваленьне на развод тытуну могуць атрымаць толькі тыя земляробы, якія запрапануюць пад сяўбу ня менш 500 квадратных мэтраў зямлі ў адным нераздзельным кавалку.

Просьбу аб дазволе на развод тытуну належыць у адпаведных для паасобных акругоў урадах і прадпрыемствах падаваць безпасярэдня ці праз адпаведныя гмінныя ўрады. За паўзорнае вядзеньне разводу тытуну будуць выдавацца плянтатарам грашовыя награды пры дастаўцы збору да выкупу.

Затым загад аб разводзе тытуну прадбачыць карныя рэпрэсыі за незахоўваньне вышэй паданых загадаў, а ласьне: развод тытуну без урадавага дазволу ці на іншым мейсцу, не акрэсляным у дазволе, або іншага гатунку, чым паказаны ў аднознай акрузе і мейсцу, падлягае кары з арт. 57, 59 і 60 уставы карнай скарбовай. Тытун незаконна разьведзяны падлягае канфіскацыі.

## Катастрафічны стан пасеваў.

Дзякуючы вялікім марозам у канцы сакавіка і пачатку красавіка стан азімых пасеваў у шмат паветаў катастрафічны. Асабліва пацярпела жыта ў паўночных паветах ваяводзтва Варшаўскага і Беластоцкага.

## Бязпроцантавы крэдыт сялітраю.

З мэтаю прыйсьці з запамогаю сялянам, азімыя пасевы якіх пацярпелі ад доўгіх марозаў і вымагаюць гаўторнага нагнаеньня сялітраю, Дзяржаўны Рольны Банк у згодзе з чыньнікамі Ураду ў відзе вынятку будзе выдаваць земляробам бязпроцантавыя крэдыты ў сялітры з Хоржава да 1-га лютага 1929 г. па цане:

1) Сялітра 35%—100 зл. за 100 кілаграмаў, плюс упакоўка па 1 зл. 80 гр. за скрынку, умяшчаючую па 50 кілаграмаў.

2) Хоржаўская сялітра (hitrofas) 15% — 46 зл. за 100 кілягр. разам з упакоўкаю ў Хоржаве.

Дзеля паважнасьці гэтае акцыі, указаныя штучныя гнаі Дзяржаўны Рольны Банк будзе дастаўляць дробным і буйным земляробам пры пасярэднічаньні сындыкатаў, усіх тыпаў каапэратываў, гмінных і павятовых зьберагацельных касаў і г. д., як і безпасярэдня земляробам, выступаючым асобна ці сумесна. Заказы будуць прымацца толькі на цэлыя 15 тонавыя вагоны.

## Пасеўныя пазыкі.

Дзяржаўны Рольны Банк, па прыкладу папярэдніх гадоў, пастанавіў выдаваць уласьнікам малых рольных абшараў пазыкі на веснавы пасеў. Пазыкі гэтыя ня будуць выдавацца індывідуальна, а пры пасярэднічаньні ральнічых арганізацыяў, да якіх належыць даная асоба. У першую чаргу касы Стэфчыка атрымаюць права на раздачу пасеўных пазык. Вялічыня пазык будзе вагацца між 60—380 зл.

## Новыя „кулкі" ральнічыя, касы Стафчыка і млечні.

Па ініцыятыве „Związku kółek" і земляробных арганізацыяў у апошні час у паветах Віленскага ваяводзтва былі адчынены новыя ральнічыя „кулкі" ў Леонполю і Сасноўцу Браслаўскага павету. Каса Стэфчыка адчынена ў Шэметоўшчыне Сьвенцянскага павету. Млечні ў Начы і Ячменьшчыне Віленска-Троцкага пав. ў Ключанах Сьвенцянскага пав. і ў Беніцы Маладэчанскага пав., роўным чынам аддзяленьне млечні ў Галетах Браслаўскага павету.

## Цэны ў Вільні.

(17 красавіка)

Жыта (за 100 кілогр.) 54-56 зл., авёс — 50—55 зл., ячмень броваровы—57 зл., крупяны—54 зл., вотрубі жытнія—35—36 зл., пшанічныя 36—37 зл. Салома жытняя 10—12 зл., сена 12—15 зл., бульба 16—18 зл.

Насеньня (цэны гуртовыя за 100 кіл.): канюшына чырвоная—1 гатунку — 300 зл., белая—300 зл., швэдка—325 зл., цімафейка—100 зл., сэрадэля — 32 зл., лубін 24 зл., авёс пасеўны 50—53 зл.

Мука пшанічная амэрыканская за 1 кілёгр. 1,10—1,20 зл., краёвая I гат.—1,00—1,10 зл., II гат.—80—90 гр.. жытняя 65 прац.—78—82 гр., 70 прац. — 75—78 гр.

Сала краёвае I гат. — 4—4,20 зл. за кіл., II гат. — 3,50—3,80 зл. Амарыканскае 4,30—4,60 зл.

Малако 30—35 гр. літр., сьмятана—1,80—2,00 зл. Тварог 1,20—1,40 зл., сыр з тварагу—1,80—2,00 зл., масла несалёнае—6,50—7,00 зл., салонае 6,00—6,50 зл., сьлівачнае—7,00—8,00 зл. Яйкі 2.00—2,20 зл. за дзесятак.

## Біржа.

| | | |
|---|---|---|
| Даляр . . . . . . | 8,91 | зл. |
| Англійскі фунт . . | 43,50 | „ |
| Залаты рубель . . . | 4,71 | „ |
| Сярэбраны руб. . . | 2,95 | „ |
| Нямецкая марка. . . | 2,13 | „ |
| Чырвонец. . . . . | 29,00 | „ |

# Тутэйшая хроніка.

**— Урачыстасьці адчыненьня акулістычнай клінікі.** 22 гэтага Красавіка ў Вільні распачнецца зьезд акулістаў з усяе Польшы і адчыненьне універсытэцкае акулістычнае (вочнае) клінікі і вочнага вайсковага шпіталю. Урачыстасьць працягнецца некалькі дзён. Чакаюць на прыбыцьце п. Прэзыдэнта Рэспублікі, Маршалака Пілсудскага і іншых Міністраў. Між іншымі ганаровымі госьцямі запросіны атрымаў і рэдактар „Грамадзяніна" п. Т. Вернікоўскі.

**— Беларускія набажэнствы.** 22 красавіка ізноў пачнуцца пасьля перарыву на Вялікадны час набажэнствы для беларусаў ў касьцеле сьв. Мікалая ў Вільні.

26, 27 і 28 сакавіка ў касьцеле сьв. Мікалая адбыліся рэколекцыі для вучняў — каталікоў Беларускай Гімназіі якімі кіраваў кс. Ф. Чарняўскі.

**— Беларускі Пасольскі Клюб.** Беларускі Пасольскі Клюб складаецца з гэткіх паслоў і сэнатараў: старшыня — Ф. Ярэміч, віце-старшыня-скарбнік — сэнатар В. Багдановіч, віцестаршыня-сэкратар — пасол П. Каруза і сябры — паслы Стэповіч, Юхневіч і сэнатар Рагуля, які знаходзіцца яшчэ пад арыштам.

Дзеля таго, што ў гэткім складзе Беларускі Пасольскі Клюб ня мае права на прадстаўніцтва ў соймавых камісіях, дык ён увайшоў у згоду з Украінскім Пасольскім Клюбам, які складаецца з 25 паслоў з Укр. Нар. Дэм. Аб'яд. Сельсаюзу і 9 паслоў - украінскіх радыкалаўсацыялістых. У выніку гэтага пасол Ярэміч увайшоў у склад Адміністрацыйнай Соймавай

Камісіі, а затым магчыма, што беларускія пасл ы ўвайдуць у Асьветную Камісію і Камісію Зямельнай Рэформы.

**— Новы ўрад Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.** На сходзе Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, які адбыўся 4 красавіка, выбраны новы урад у наступным складзе: старшыня -А. Більдзюкевіч, заступнік старшыні — кс. А. Станкевіч і адвакат Бабянскі, скарбнік Я. Васілеўскі, сэкрэтар пасол Юхневіч, сябры — пасол Каруза і Э. Будька. У рэвізыйную камісію: старшыня — сэнатар Багдановіч, сябры — пасол Ярэміч і Я. Позняк.

**— Дапамогі беларускім бедным дзецям.** Як зьмешчана у хроніцы радыкальнай белар. газэты „Голас Працы"№ 1, у Бел. Т-ве Помачы Пацярпеўшым Ад Вайны атрыманы ад Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжа з Менску 29 сакавіка г. г. 1530 даляраў і восеньню 1927 года 2500 даляраў, а ўсяго 4030 даляраў, што пры пераводзе у злотыя становіць досыць салідную лічбу: каля 36,000 злотых.

Цікава, як і куды гэтыя грошы вырасходаваны?

Спадзяёмся, што Камітэт Помачы Пацярпеўшым ад Вайны азнаёміць грамадзянства з гэтым і ў хуткім часе убачым поўны адчот у адной з беларускіх газэт, выходзячых у Вільні.

**— Інспэкцыя праваслаўнае духоўнае сэмінарыі.** У зьвязку з маючай хутка наступіць частковай беларусізацыяй віленскае праваслаўнае сэмінарыі, прыезджае ў Вільню на інспэкцыю яе спэцыяльная камісія Міністэрства Асьветы.

**— Выдаваньне пазваленьня на паляваньне.** Згодна выясьненьня Міністэрства Скарбу староствы выдаюць пазваленьні на паляваньне, пабіраючы аплату разам з аплатай штэмпэльнай: за картку 2-х тыднёвую—13 злотых, за гадавую—20 зл. і за 3 гады—40 злот.

**— Будова шосы паміж Вільняй і Горадняй.** Міністэрства грамадзкіх работаў асыгнавала грошы на будову шосы паміж Вільняй і Горадняй. Будова пачнецца ў траўні бягуч. году.

**— Запярэчаньне.** Інспэктар Беларускае Гімназіі ў Вільні д-р М. Марціньчык у пісьме сваім да „Голасу Працы" запярэчвае факту арганізацыі беларускіх скаўтаў. Ён кажа, што звычайныя імяніны некалькіх вучаніц Віл. Бел. Гімназыі, пражываючых у інтэрнаце мэтадыстаў, былі прыняты за арганізацыі скаўтаў.

**— Да працэсу Грамадоўцаў.** Працэс над паслом Тарашкевічам і іншымі перайшоў у другую стадыю—дапрос сьведкаў з боку абвінавачаньня ўжо закончыўся і з 16 красавіка пачалі дапрашываць сьведкаў абароны.

**— Рэдактар „Бел. Дня„ п. Умястоўскі— сьведка у справе „грамадоўцаў".** На судзе нядаўна фігураваў артыкул нябошчыка Гурына аб Антону Луцкевічу, надрукаваны ў Беларускім Дні". Дзеля таго, што Гурын быў сталым супрацоўнікам п. Умястоўскага, абарона прасіла Суд аб праслуханьні п. Умястоўскага.

**— Да судавой адказнасьці.** Як нас паведамляюць п. А. Паўлюкевіч пацягнуў да судавой адказнасьці рэдактараў „Беларускага Дня" п. Ф. Умястоўскага і „Нашай Бацькаўшчыны" п. Я. Станкевіча за зьмяшчэньне у сваіх газэтах выдзяржак з пісем М. Пятровіча і Л. Міцькі.

Нарэшце пачынаецца аздараўленьне.

**— Звальненьне з вастрогу грам. Я. Шутовіча.** Сябра Беларускага Студэнскага Саюзу гр. Я. Шутовіч, які быў арыштаваны 27 лютага г. г., звольнены 7 красавіка з Ашмянскага вастрогу за каўцыю ў 1000 зл.

**— Беларуская часопісь ў Амэрыцэ.** У Альтамовце (Паўднёвыя Штаты Амэрыкі) ў студні выйшаў ужо трэйці нумар каталіцкай часопісі на беларускай мове п. назв. „Праўда". Пасярод беларускіх артыкулаў ёсьць артыкулы і ў ангельскай мове. Выдае часопісь д-р Я. Тарасэвіч.

**— Выйшаўшыя беларускія газэты за мінуўшы тыдзень.** У мінуўшым тыдні выйшлі газэты: „Biełaruskaja Krynica", „Грамадзін", „Праваслаўная Беларусь", „Беларускі Дзень" і „Голас Працы". Нешта ня выходзіць „Сялянская Ніва"—Ф. Ярэміча і „Народ"—Я Станкевіча.

**„Хрысьціянская Думка" № 7.** Выйшаў з друку № 7 беларускага каталіцкага двутыднёвіка „Хрысьціянская Думка". Зьмест: 1) Алелюя; 2) І. Мацюкоўскі—Думкі над вялікапным Алелюя; 3) Д-р. М. А.—Бог; 4) Кс. д-р І. Р.—Агульнае паняцьце Хрысьціянскай Апалёгэтыкі; 5); 3 рэлігійна-касьцельнага жыцьця; 6) 6) К. Сваяк—Заледзь зараніца (верш); 7) кнігапіс; хроніка, календарык, усячына і жарты.

**— Культуральна- Асьвятовае меставае кіна.** Апошнія часы меставае кіна у Вільні ставіць ўсё лепшыя і лепшыя абразы. Дзякуючы недарагім цэнам публіка ахвотна і з прыемнасьцю адведвае ўсе сэансы.

З даходаў мястовая Рада дапамагае утрыманьню дзяцей пачатковых школаў, субсыдуе дабрачынныя і культуральна-асьвятовыя інстытуцыі, дапамагае дзяцінным летнім калёніям і іншае...

Шкада толькі, што ня ўдзеляюцца запамогі беларускім дзецям.

**— Маленькая папраўка.** У хроніцэ „Беларускага Дня" № 14 зьмешчана, быццам камэндант гарнізону забараніў вайсковым бываць у „Беларускай Хатцы", дзе „што дня вядзецца ігра ў лёто".

Як нам ведама, „Бел. Хатка" месьціцца на Завальнай вуліцы № 6 кв. 4 і ў ёй ніякай ігры ў лёто не вядзецца.

**— Зьмена памешканьня.** Рэдакцыя „Грамадзяніна" перайшла ў новае памешканьне ў тым самым доме.

Новы адрэс будзе гэтакі: **Zawalna 6, m. 5.**

— **Сьвяткаваньне Вялікадня.** У памешканьні рэдакцыі „Грамадзяніна" на першы дзень Вялікадня дзеля ўступнага прывітаньня адбыліся ўзаемныя розгавіны. Былі прысутнымі ўсе сталыя супрацоўнікі „Грамадзяніна", сябры „Хаткі" і іншыя грамадзяне.

Атрымана некальські прывітальных дэпэшаў.

— **Sprawy Narodowościowe.** Вышаў чарговы нумар № 1—1928 г.(за студзень, люты і сакавік) польскае часопісі, пасьвечанае нацыянальным пытаньням.

Зьмест нумару наступны: Артыкулы — 1) Ян Охотна; З гісторыі беларускіх дзяржаватворчых пачынаньняў". 2) Зыгмунт Столінскі; „Немцы у Сойме і Сэнаце у 1919—1927 г. 3) М. Фэлінскі: „Праграма Украінскай Сацыялістычнай-Радыкальнай Партыі". 4) Станіслаў Часноўскі: „Справы нацыянальных меншасьцяў у Уніі Саюзаў Лігі Народаў. Хроніка: Нацыянальныя меншасьці ў Польшчы— Нацыянальныя справы па за Польшчай — Справа меншасьцяў на тэрэне міжнародным — Рэцэнзыі — Бібліяграфія. Агляд гэтае досыць цікавае часопісі; датыкаючы беларускіх пытаньняў дадзім у наступным нумары.

# Карэспандэнцыі.

## Як у нашым кутку абыходзяць сьвята Вялікдзень.

(Вялейскі павет).

Адно з самых галоўнейшых сьвятаў, якое сьвяткавалі яшчэ ў даўнейшыя часы (да хрысьціянскія) нашы прадзеды, было Вялікдзень. Сьвята гэта сустракалася і сустракаецца цяпер з вялікай радасьцю і праводзіцца з нязьмернай весялосьцю і пышнасьцю. Яно якраз выпадае ў часе другога сонцавароту, калі якбы адраджаецца цэлы сьвет да новага жыцьця. Калі лопаюць аковы зімовага сну і пачынаецца паступовы пэрыяд адраджэньня, адмалажэньня гэтай маткі-прыроды, якая нас сваім харастуом вабіць да чароўнага жыцьця. І запраўды трудна выразіць, што адчувае людзкое сэрца, калі ў нас перад вачыма раскінецца вясна ў цэлым сваім харастве. Перш-наперш пачнуць ажываць памеркшыя касулі сонца. Колькі радасьці яны нясуць для гаротнага селяніна, калі ён выходзе з сваей душнай і цеснай хаты і скіроўвае пагляд на безграпічны прастор блакітнага неба! Сонейка купае золатам беднага сяляніна і будзіць у яго завялым целе новую энэргію, родзіць новыя імкненьні і дае прыплыў сілы да змаганьня ў штодзеннай працы.

Але гэта яшчэ мала, каб разбудзіць зусім ад сну сьпячую натуру чалавека. Яшчэ трэба, каб зарагаталі ручвы ў полі, каб зазьвінеў нейдзе пад сонцам срэбрны галасок жаўранка і каб голая зямля прыстроілася ў аксаміт зялёны. Тады толькі прачхаецца людзкая душа, імкнецца яна ў даль з хвалямі быстрай вясеньняй вады, нясецца ў выш за сярэбранай песьняй аж нейдзе далёка.. далёка ў бязмежная неба... Дык і ня дзіва будзе нам, што нашы пра-прадзеды, будучы яшчэ паганамі, сьвяткавалі гэтае сьвята ня менш урачыста, чым мы.

Мы-ж у сваю чаргу перажываем яшчэ большую радасьць, зьвязаную з уваскрасеньнем Хрыста Спасіцеля. Гэтыя сьвяты сонцаварот і Уваскрасеньне Хрыста Спасіцеля так трапна злучаны паміж сабой, што яны запраўды перад народам адчыняюць дзьверы раю — вясны, вызваляючы яго з пад панаваньня тэй пакутнай зімовай цемры. Як даўней нашы прапрадзеды, ня ведаючы, як выказаць сваю радасьць у часе гэтага сьвята, зьбіраліся на полі, вытваралі розныя штукі і як шалёныя скакалі і пялі розныя песьні на чэсьць сонцу, — такія звычаі і песьні, толькі трошку зьмененыя пад уплывам хрысьціянства, шмат дзе захаваліся па глухіх вёсках нашай Бацькаўшчыны. У песьнях гэтых болей выражаецца радасьць з аджыўшай прыроды, чымся з уваскрасеньня Хрыста, хаця-ж зьмест песень якраз гэтаму пярэчыць. Безумоўна ў гэтай радасьці ад ажыўшай прыроды, мы бачым яскравы адбітак паганскіх часоў. Але гэта ані чуць ня шкодзіць нашаму сяляніну радавацца і выслаўляць гэта сьвята з пункту гледжаньня хрысьціянскага.

У ноч перад Вялікаднем рэдка хто з сялянаў застаецца ў хаце. Кожны хоча пабываць гэту ноч каля царкві. Звычайна каля кожнай царкві гэту ноч распаліваюць вялікія вогнішчы з смаляных карчой, а ва дрэвах, якія растуць часамі каля царкві, разьвешваюць змочаныя ў нафту клубкі нітак, якія запаліваюць у часе працэсіі „крестнага ходу". Апроч гэтага ў часе „крестнага ходу" усякімі сіламі стараюцца яго ўпрыгожыць: страляюць, пушчаюць ракеты, асьвечваюць паветра штучнымі агнямі і інш. Гэта першая радасьць народу, вітаньне сьвята Уваскрасеньня Хрыста, а з Ім і уваскрасеньня прыроды.

Па першым дні наступае другая ноч ня менш цікавая першай. Тут ужо выракаецца ўся радасьць па прычыне гэтага Уваскрасеньня. Ноч гэта завецца „валачобнай". Звычайна зьбіраецца моладзь і пачынае хадзіць па падваконьня, як быццам, выслаўляючы перад кожным гаспадаром сваю радасьць з Уваскрасеньня Хрыста, або славячы яго мукі, якімі Ён адкупіў нас ад грахоў. А найчасьцей гэтыя песьні бываюць螺 рознымі пажаданьнямі для гаспадара, гаспадыні іх дачкі і інш.

Вось напрыклад адна з песень, апяваючая гора Божай Мацеры:

„Цераз мора гібка кладка,
Тут ішла Найсьвенша Матка.
Ішла Яна адно поля,
Ішла Яна і другое,
На трэцьцяе ступаючы
Свайго Сына шукаючы,
Ды спаткала трох ангелаў
Трох ангелаў, храніцеляў"
„Вы, ангелы, храніцелі,
Майго сына ці відзелі?"
Адзін кажа: я ня відзіў,
Другі кажа: зусім нячуў
Трэці-ж кажа: я сам там быў,
Я сам там быў, Яму служыў.
Твайго Сына жыды ўзялі,
На крыж рукі распіналі,
На крыж рукі распіналі,
Кроў гарачу разьлівалі.
Але Твой Сын з мёртвых устаў,
З мёртвых устаў, збаўленьня даў.
На тым мейсцы царква стаіць,
А ў тэй цавкве Сам Бог сядзіць,
Сам Бог сядзіць, лісты піша,
Лісты піша Пятра кліча:
„Падай ключі пякельныя,
Выпусьць душы ня вінныя! і г. д.

А некаторыя песьні пяюцца проста ў чесьць вясны, хаця за кожнай звароткай ужываецца прыпеў „Хрыстос Васкрэс". Напрыклад:

Прайшоў зімовы цяжкі сон,
Прырода стала ажываць.
Жыцьцё вітае да вакон
І будзіць нас вясну вітаць. і г. д.

А вось прыклад з песьні гаспадару:

Пане гаспадару, йдзі па гарэлку!
Пані гаспадыня сыр на талерку!
Сягоньня ў нас Хрыстос Васкрэс
За гэта, пан што хочаш еш і г. д.

Песьняў такіх пяецца вельмі шмат і зьмест іх найражнейшы. Некаторыя з іх маюць выразны адбітак паганства. Але гэта так увялося народнай традыцыяй, што ўсе гэтыя песьні і абычаі, узятыя разам, твораць гэта сьвята для сялян яшчэ больш урачыстым. Дзеля гэтага мімавольна цешыцца кожная душа селяніна, калі падыходзіць гэта найвялікшае сьвята, з якім зьвязана так шмат дарагіх успамінаў.

**Вялейскі.**

# З МІНУЎШЧЫНЫ.

## Людзі-зьвяры на Беларусі.

У часе панаваньня паншчыны часта здаралася, што сяляне, ня маючыя сілы больш вытрымаць зьдзеку над імі з боку некаторых уладароў іх жыцьця, уцякалі ў вялікія тагды яшчэ лясы і жылі там сярод зьвяроў, пакуль не паміраў іх гаспадар, альбо, што бывала яшчэ часьцей-пакуль самі не паміралі з голаду ды й холаду. Некаторыя з іх аднак жылі ў лясох даўгі час, мелі дзяцей і вось дзеці гэтыя, жывучы толькі у лесе, ня чуючы ніколі людзкога голасу, з часам рабіліся папросту дзікімі.

У 1661 годзе ў часе польска-маскоўскай вайны, польскія жаўнеры спаткалі ў лесе вялікую мядзьведзіцу, якая мела пры сабе шэсьць малых медзьвяжатаў і двух маленькіх дзяцей. Жаўнеры забілі мядзьведзіцу і злавілі аднаго з людзкіх дзяцей. Гэта быў хлапец, маючый чалавечы выгляд, але ня маючый ані розуму, ані мовы. І хадзіў на ўсіх чатырох бурчэў як мядзьведзь, любіў надта мёд і грыз у лесе кару зубамі. Яго прывезьлі ў Варшаву ахрысьцілі Язэпам і ужывалі як слугу пры кухні. Але ніяк не маглі навучыць гаварыць і вмусіць насіць адзежу.

Значна пазьней, ў пачатку дзевятнаццатага стагодзьдзя з вёскі Яхімавічы каля Слоніма ўцяклі ў лес сялянін з жонкай. Ён пражыў ў лесе 20 гадоў і меў двух дзяцей: Рыгора і Зосю. Дзеці вырасьлі бадай ня выходзячы з зямлянкі, якую зрабіў бацька; калі-ж ён памёр жонка яго забрала дзяцей і прыйшла з імі у маёнтак і праз пару дзён тутака і памёрла. Дзеці па зьвярынаму зусім не зацікавіліся нават сьмерцю маткі. Яны былі страшэнна галодныя і пачалі есьці ўсе, што толькі трапляла ім ў рукі ад грыбоў да жывых гусей. У канцы Рыгор затруціўся мухаморамі.

Па гэтых двух фактах можна судзіць аб страшных часах калі людзі ўцякалі ад людзей да зьвяроў.

# РОЗНЫЯ.

## Расьліны і вада.

Стары бук мае каля 700,000 лістоў, для жыцьця якіх у працягу аднаго сэзону, г. ё. ад вясны да восені трэба яму высмактаць з зямлі 120 тонаў вады.

Вялікае дзерава для свайго жыцьця выконвае гэткую працу, якую мог бы выканаць чалавек, які ў працягу 10 гадзін гарачага дня прынёс 100 вёдзер вады на верхнія этажы дому.

Хімічныя працэсы, якія адбываюцца ў дзераве, вытвараюць гарачыню, роўную гарачыне аўтамабільнага матору. Дзеля гэтага часткa вады, выпампаваная расьлінаю з зямлі, ідзе на асьцюдзеньне гэтых расьлін.

Затым шмат расьлінаў, якія растуць у мейсцах з гарачым і сухім паветрам, служаць асьцюдзяючым сьродкам, не дапушчаючым да хуткага выпарэньня з іх вады.

**Паслу Ф. Ярэмічу з сям'ёй**
**рэдакцыя і супрац. „ГРАМАДЗЯНІНА"**
шлюць сваё спачуцьцё з прычыны бязчасовае сьмерці сынка **ГЭНРЫХА**, памёршага ўноч на 16 красавіка сёл. г. пасьля цяжкай хваробы.

## Новыя багацьці ў Афрыцы.

У Паўднёвай Афрыцы выкрыты новыя брыльянтавыя россыпі. Пры выкрыцьці іх міністар, які загадвае руднікамі, уласнымі рукамі ў працягу гадзіны сабраў брыльянтаў на 3000 даляраў.

## Статыстыка жанчын у Зл. Штатах.

На 8,500,000 жанчын, працуючых у Злучаных Штатах, статыстыка ўказвае 2 міл. працуючых пры хатняй гаспадарцы. З рэшты 635,000 служыць вучыцелькамі ў пачатковых школах, 564,000 у канцэлярыях, 140,000 сёстрамі міласэрдзя і ўзгадаваніцамі, 13,000 бібліятэкаркамі, 10,000 дырэктаркамі і прафэсарамі вышэйшых школаў, 9.000 дахтарамі мэдыцыны і 9,000—літэратураю. Агульны лік насельніцтва ў Зл. Штатах 110 міл. чал.

## Вераб'і і летні час.

Адзін дабрак карміў кожны дзень у Жардэндзю Люксэмбуры (бульвар у Парыжы) вараб'ёў у адзін і той-жа час і ў тым-жа мейсцы. І вось, калі увялі летні час, значыць на гадзіну пазьней, дык вераб'і ў першы-ж дзень прыляцелі ў тую-ж самую гадзіну, гэта значыць на гадзіну пазьней.

Узьнікла пытаньне, як яны даведаліся, што іх карміцяль прыдзе на гадзіну пазьней, бо-ж яны ня ўмеюць чытаць. Дапушчаюць, што вераб'і зарыентаваліся па вулічнаму руху, які прыспасабляецца да гадзін.

## 20.000 франкаў за пісьмо Наполеона.

У парыскім „Атэль Друо" адбылася прадажа рожных каштоўных аўтаграфаў. Між іншым пісьмо Наполеона І, напісанае ўласнаручна на адным баку лістка паперы да Барраса, за 20.000 франкаў. Пісьмо Гётэ, пісанае пафранцуску да пані дэ Стэль, прадана за 6.800 фр.

## На самалёце наўкола сьвету.

Французская прэса пасьвячае шмат увагі палёту наўкол сьвета францускіх лётчыкаў Кострэса і Ле-Брыкс, якія зрабілі гэты палёт у 337 гадзін, праляцеўшы 56.670 кілёмэтраў.

Ле-Брыкс па прыбыцьці, як вылез з самалёту, дык самлеў — на гэтульки быў змучаны ад нэрвовай напружанасьці. Натоўп, які сабраўся вітаць спусьціўшыхся лётчыкаў, выносіў больш за 60 тысячаў чалавек.

# Навука і тэхніка.

## Паветраныя цягнікі.

Адзін нямецкі лётчык выпрацаваў праэкт паветраных цягнікоў, якія, як і па зямлі, будуць складацца з паветранай лёкаматывы і некалькіх вагонаў. Ён маніцца ў хуткім часе зрабіць спробу. Экспэрты нямецкага інстытуту паветраных дасьледаваньняў супольна працуюць з фірмаю, выробляючай гэты цягнік, над удасканаленьнем і названы лётчык надзеіцца, што яму ў бліжэйшыя месяцы ўдасца зьдзейсьніць сваю ідэю і арганізаваць першы паветраны рэйс „Бэрлін—Нью-Іорк".

Гэты цягнік, які ўжо выстаўляны для агляду публікі, складаецца з трох гэтак званых „авіёнаў", зьвязаных між сабою сыстэмаю счапленьняў. „Авіён-лёкаматыў" — гэта звычайны аэраплян з вельмі сільнымі маторамі. У двух „буксэрных" аэраплян-вагонах матораў ня будзе і яны будуць толькі пляніраваць. Яны могуць быць адчэпляны ад лёкаматывы ў часе лёту і спусьціцца на зямлю кожны паасобна. Але пры пералёце праз Атлянтычны акіян маторы будуць пастаўляны на ўсіх апаратах.

Дасьледчык імкнецца к выбудаваньню апаратаў вялізарных разьмераў, якіх да гэтай пары не рашаліся будаваць з тае прычыны, што яны вельмі цяжка аддзяляюцца ад зямлі. Цяпер іх будзе паднімаць „авіён-лёкаматыў" і затым астаўляць у паветры, як толькі яны дасягнуць патрэбнай хуткасьці і высаты.

Пасьля ўсяго таго, чаго навука і тэхніка дасягнула да гэтай пары, у гэтым праэкце нямецкага дасьледчыка няма нічога фантастычнага.

# Кутом жартаў і сьмеху.

## Гаварлівая пацыентка.

Пацыентка: — Пане доктар, дзеля чаго пан казаў мне высунуць язык, калі пан нават не глядзеў на яго?

Доктар: — Бо хацеў мець спакой пры пісаньні рацэпту.

# Паштовая скрынка.

Варшава. Нямецкае Пасольства — газэта з 1. IV. высылаецца.

Т. Шчэбет.—Газэту высылаем.

Бібліятэка Сойму і Сэнату — газэта высылаецца.

Я. Косьцюкевічу — пробны нумар газэты высылаецца.

Гданск — падпіска 5 зл. атрымана — газэта высылаецца.

Рыга В. А. газэта высылаецца.

Я. Шнібак 1 з. 80 гр. атрымана — газэта высылаецца.

Бел. Кнігарні Т-ва Бел. Школы у Вялейцы — Прасімыя нумары будзем высылаць. Варункі тыя самыя, як для іншых газэтау.

А. Аусяніку—Газэту высылаем ад 1-го нумару, а гэтак сама выслалі пісьмо.

Т. Паўлюкевічу. Ліда. Газэту будзем высылаць. Пасьведчаньне ад „Прасьветы" застаецца у сіле.

Адказны Рэдактар—Выдавец Тодар Вернікоўскі

Белар. Друк. Ім. Фр. Скарыны. Вільня.